

# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 19 (19). Слонім. 10 кастрычніка - 16 кастрычніка 1997г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Цана 2 тыс. руб.


## Олегу Лактюшину сделали замечание

**«За неудовлетворительную организацию работы, отсутствие должного контроля за ходом строительства жилых домов в свете Указов президента Республики Беларусь председателю Слонимского горисполкома Олегу Лактюшину объявили замечание».**

Такое строгое наказание нашему мэру вынес Гродненский областной исполком после того, как проанализировал работу по выполнению программы жилищного строительства в Слониме в 1997 году. Оказывается, в городе из 22,8 млрд рублей освоено всего 7,2 млрд. рублей.

До конца года в Слониме должно быть введено в строй 13 тыс. кв. м. жилья или 180 квартир. Как заявили корреспонденту «ГС» в управлении капитального строительства горисполкома, только в октябре будет сдан первый 60-квартирный дом.

За упущение в работе Олега Лактюшина обязали привлечь к дисциплинарной ответственности до 1 ноября его заместителя, который курирует вопросы строительства.

Наталья ФУРСОВА

## Работницы базы признаны виновными

**В народном суде закончился процесс по уголовному делу в отношении трех работниц райпотребсоюза.**

В обвинительном заключении отмечалось, что на протяжении нескольких лет из продуктового склада мелкооптовой базы потребкооперации исчезло товаров с учетом деноминации и коэффициента на общую сумму около 150 миллионов рублей.

Суд признал женщин виновными. В частности, 49-летняя бывшая старшая кладовщица склада Мария Добриян осуждена условно на 3 года с «обязательным привлечением к труду на стройках народного хозяйства». Это решение ей было вынесено с учетом того, что она выплатила гражданский иск в размере 150 миллионов рублей. Как отмечают осведомленные лица, чтобы собрать эту огромную сумму, женщине пришлось продать дом в деревне, взять в банке кредит, «залезть» в долги. Наверное, это стоило таких финансовых расходов, иначе Марии Добриян, обвиняемой по двум статьям за хищение в особо крупных размерах и должностной подлог, грозило от 10 до 15 лет заключения.

Бывшая заведующая базой 43-летняя Раиса Нестер и бывшая главный бухгалтер базы Людмила Павлова были осуждены к исправительным работам. Однако, учитывая, что они имеют несовершеннолетних детей, осужденных амнистировали.

Суд также вынес частное определение в адрес райпотребсоюза. Руководству кооперации рекомендуется навести порядок по ведению бухгалтерии на мелкооптовой базе.

Володя ЯНЧУК

## Чаму маўчыць раённае радыё?

**Амаль два месяцы ў горадзе не працуе Слонімскае раённае радыё.**

А на вёсцы, мусіць, ужо ніколі сяляне не пачуюць паланез Агінскага і знаёмыя словы «гаворыць Слонім», бо там, увогуле, некалькі гадоў назад адрэзалі радыёлінію. Па словах загадчыцы аддзела радыёінфармацыі Алены Афанасік, прычын некалькі: тэхніка састарэла, касет новых няма, больш таго, радыё трэба па новаму перарэгістрыраваць у Міністэрстве сувязі РБ. Ёсць праблемы і з тэхнічным абслугоўваннем радыёсувязі. Але на гэты конт выказаўся начальнік раённага вузла электрасувязі Сяргей Карачараў. Ён, у прыватнасці, сказаў, што ўпэршыню чуе ад нас, што не працуе раённае радыё. «З боку вузла сувязі праблем няма, мы хоць зараз гатовы трансліраваць радыёперадачы. А што там здарылася на радыё — гэта іх праблемы», — заявіў спадар Карачараў.

Вось такая сёння склалася сітуацыя з раённым радыё. Многія гарады Беларусі даўно маюць сваё мясцовае тэлебачанне, а ў нас узнікаюць праблемы з радыёвяшчаннем. Таму пра тэлебачанне прыходзіцца толькі марыць. Хоць мы маем на Слонімшчыне самы высокі тэлевізійны рэтранслятар у Еўропе, аж 350 метраў.

Да ўсяго сказанага вышэй, хачу нагадаць, што за ўвесь пасляваенны час такая сітуацыя з раённым радыё здарылася ўпершыню. Нават у гады нямецкай акупацыі ў Слоніме гучала мясцовае радыё, якое вёў паэт Сяргей Хмара.

Сяргей ЧЫГРЫН

*Фоторепортаж Сергея Кравцова*

# На учениях, как в бою





Вчера, 9 октября, на территории Обуз-Лесновского полигона (Барановичский район) закончились батальонные тактические учения с боевой стрельбой.

Посмотреть, как воюет белорусское танковое подразделение в обороне, на Слонимщину приехали военные спецы США, Финляндии, Дании, Норвегии, Китая и Польши. Боевую выучку и мастерство демонстрировали гвардейцы-танкисты подполковника Геннадия Голени, слонимской 11-ой механизированной бригады.

***На снимках:** 1.За ходом учений наблюдает командир корпуса генерал-майор Валерий Фролов (в центре). 2.Танковый экипаж готовится к отражению атаки "противника". 3.Ценное указание офицеру отдает комбриг полковник Алексей Мудрак (справа). 4.Наводчик орудия готов к стрельбе. 5.Замкомбрига подполковник Анатолий Кудерко беседует с наблюдателем из Китая.*







**ЗДАРЭННІ**

## Вецер трохі пагуляў

Моцны, парывісты вецер, які пранёсся над Слонімшчынай у мінулыя выхадныя, нарабіў шмат шкоды.

Па словах галоўнага інжынера раёна электрасетак Эдуарда Татарынчыка, было зарэгістравана 18 пашкоджанняў на лініях электраперадач. Без святла часова засталіся вёскі Бярдовічы, Шышкі, Сянькоўшчына, а таксама гарадскія вуліцы Пушкіна, Кірава, Савецкая, Мінскі тракт і іншыя.

У панядзелак, 6 кастрычніка, усе пашкоджанні былі ліквідаваны. Страты ў выніку аварыі падлічваюцца.

Віктар ФЕДАРОВІЧ

## Трэба часцей бываць на дачы

Амаль два гады жыхар Слоніма П. не быў на сваёй дачы, якая знаходзіцца каля вёскі Парэчча. А калі нядаўна прыехаў туды, то жахнуўся — злодзеі ўкралі металічныя вароты.

## Тэлевізар выцягнулі праз акно

У ноч з 3 на 4 кастрычніка невядомыя ачысцілі адзін з пакояў Дзяржстраху, які арандаваў прадпрымальнік. Адтуль злодзеі вынеслі тэлевізар, тэлефон-факс і тры калькулятары.

У будынак злачынцы залезлі праз акно.

## Падвяла лянота

7 кастрычніка ў міліцыю паступіла адразу дзве заявы аб угонах машын. Так, з вуліцы Камсамольская быў украдзены толькі што адрамантаваны «Масквіч-2140», а з вуліцы імя Ф. Скарыны — ВАЗ-2107. Дзе падзеўся «Масквіч»—пакуль невядома, а вось уладальніку «семёркі» пашанцавала—яго машына была знойдзена на праспекце Незалежнасці. Аднак угоншчыкі знялі з машыны акумулятар, колы, гадзіннік. Не пагрэбавалі яны і старым вядром, якое знаходзілася ў багажніку.

У гэтыя дні была спроба угнаць аўтамабіль «Фольксваген-Пасат» з вуліцы Ф. Скарыны. Машыну гаспадар пакінуў каля дома. Аднак злодзеям не ўдалося рэалізаваць задуманае — заклініла рулявая калонка. Уладальнік легкавушкі шчыра прызнаўся, што паленаваўся загнаць машыну ў гараж.

Міліцыя раіць аўтааматарам не кідаць свой транспарт на доўгі час без нагляду.

Валянцін ЧУРЫЛА



## Пікет у Слоніме

**Гарвыканкам даў дазвол на правядзенне пікета пад эканамічнымі і праваабарончымі лозунгамі, які адбудзецца 12 кастрычніка.**

Заяўку на яго правядзенне падаў кіраўнік маладзёжнай арганізацыі «Малады Фронт» Алесь Масюк. Згодна рашэнню гарвыканкама, пікетаванне будзе праходзіць у скверы на вуліцы Першамайскай, каля помніка-танка, у нядзелю з 11 да 13 гадзін. Як паведаміў ініцыятар пікета, асноўная яго мэта — выказаць пратэст супраць абнішчання людзей і супраць парушэння правоў грамадзян.

Алег ТАЧОНЫ

8 кастрычніка «Шахцёр» (Салігорск)—Камунальнік 1 : 0

НАША ІНТЭРВ'Ю

# «Как родная меня мать провожала...»

*В ближайшее время выйдет президентский указ об осеннем призыве в ряды Вооруженных Сил. В связи с этим наш корреспондент встретился со слонимским военным комиссаром Александром Купкой.*

**—Александр Павлович, как идет подготовка к призыву?**

—Призывная комиссия начнет свою работу после выхода указа. Однако медицинское освидетельствование призывников мы начнем буквально на днях. В начале ноября начнется призыв на воинскую службу, а во второй половине месяца мы уже будем отправлять ребят в войска. Призыв продолжится до января будущего года.

С весны 1995 года призыв стал прерогативой местных органов власти. И если раньше председателем призывной комиссии был военком, то сейчас — заместители председателей городского и районного исполнительных комитетов.

**—А сколько молодых людей будут сейчас призваны?**

—Примерно 150 человек. Призывников у нас больше, но некоторые из них получат отсрочку. Не направляем на службу в войска тех ребят, которые привлекались к уголовной ответственности.

Кроме того, право на отсрочку от воинской службы получают юноши, которые обучаются на дневных отделениях ВУЗов, в средних и средних специальных учебных заведениях. Отсрочка дается и по семейным обстоятельствам. Например, не призываются ребята, имеющие престарелых родителей пенсионного возраста, а также родителей-инвалидов,


*Пришла пора крутить портянки*

когда в семье один ребенок. Отсрочку получает призывник, жена которого находится в декретном отпуске или имеет малолетнего ребенка (до 3 лет).

**—Много ли призывников не могут служить по состоянию здоровья?**

—В Слониме примерно из каждых десяти призывников только двое освобождаются от воинской обязанности по состоянию здоровья.

**—Есть ли у нас в городе «уклонисты»?**

—Сейчас в бегах находятся только двое: Гусев и Герасимчик. Они скрываются уже три года и, как нам известно, находятся за пределами Беларуси.

**—Что ждет этих ребят, если они попадут в руки правосудия?**

—Их будут судить. В 1992 году в Слониме за уклонение от службы осужден на 2 года лишения свободы один человек.

**—А сколько местных ребят будет служить дома?**

—Пока не известно. Но в предыдущие призывы служить в Слонимскую бригаду была направлена половина юношей.

**Интервью взял Сергей ЁРШ**

МІЖ ІНШЫМ

# Семкі

Неяк вядомы сатырык распавёў анекдот. Жонка пытаецца ў мужа:

—Вася, а што б ты зрабіў, каб я дала табе мільён?

—На ўсе грошы купіў бы табе семак.

—А навошта так многа?

—Каб у цябе заўсёды рот быў заняты...

Здаецца, што менавіта для гэтага семкі існуюць, бо так трывала яны ўвайшлі ў побыт нашага жыцця. Семкі сталі нейкай ліхаманкай, якая ахапіла большасць насельніцтва горада, незалежна ад узросту, палітычных перакананняў і становішча ў грамадстве. Адзін мой знаёмы без жмені семак у кішэні ні дня не абыходзіцца. Гэты прадукт яго супакойвае, дадае пазітыўных эмоцый у сённяшнім нялёгкім жыцці.

Чалавек, які лузгае семкі, плюючы налева і направа, стаў рэальнасцю. Яго можна бачыць на аўтобусным прыпынку, у транспарце, на вуліцы. Складваецца такое ўражанне, што ўвесь Слонім тое і робіць, што плюецца. Гэтаму, вядома, спрыяе і семкавы бізнес. Сёння семкі даюць бабулям магчымасць зарабіць: маленькая шклянка іх каштуе 3 тысячы рублёў, вялікая — 5 тысяч. Гэта толькі там, у капіталістычным Захадзе, на кожным кроку прадаюць піццу, каву ды іншыя прысмакі. У нас жа — семкі. Але, калі нехта за тыя ж 5 тысяч рублёў купіць паўбохана чорнага хлеба і пачне яго есці на вуліцы, то можна ўявіць, як на яго будуць глядзець людзі?! Мусіць, не толькі са здзіўленнем, але і са спачуваннем. А вось чалавеку, які заплюе ўвесь прыпынак, ніхто і слова не скажа.

**Андрэй ТУРУК**

ГОРАД *Нашы таленты*

# СМЯЕЦЦА РАЗАМ З «ВОЖЫКАМ»

У 1950 годзе, калі ў Слонімскай радзільні нарадзілася чарговае дзіцятка, усе медсёстры і ўрачы збегліся паглядзець на цуд. Гэтым цудам быў хлопчык Уладысь Цвяткоў, які прывітаў свет вясёлай усмешкай. З таго часу смех і гумар стаў для нашага земляка прызваннем. Праўда, яму прыйшлося яшчэ закончыць Беларускі політэхнічны інстытут і аспірантуру пры Белдзяржуніверсітэце, папрацаваць на прадпрыемствах Мінска, у сталічных выдавецтвах, пакуль не вырашыў асесці ў часопісе «Вожык» літаратурным рэдактарам.



Уладысь Цвяткоў піша дасціпныя гумарэскі і трапныя жарты. У 1990 годзе выдаў свой першы зборнік гумарэсак «Усё наадварот». Апрача таго, сотні гумарыстычных твораў нашага земляка надрукаваны ў шматлікіх выданнях і калектыўных зборніках. А колькі яшчэ насмяецца—напішацца!

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Памідоры-веліканы



Юная сланімчанка Наталля Булыга (на здымку) вельмі часта бывае ў сваёй бабулі Веры Васільеўны, якая жыве ў вёсцы Новая Стража. Бабуля мае свой агарод, дзе ўжо некалькі гадоў вырошчвае вось такія памідоры. І сёлета яны ўрадзілі. Вага кожнага з іх — ад 700 да 980 грамаў. Як кажуць: у добрай гаспадыні — багаты ўраджай.

**Міхась АКУЛКА**



# Гэта яна!

*Гумарэска*

Як толькі Віталь увайшоў у аўтобус, то адразу адчуў яе прысутнасць. Няма сумненняў: яна тут, у салоне, амаль побач з Віталем... З-за гэтых думак у Віталя сціснула скроні, кальнула сэрца і нават страўнік, як падалося, пачаў падаць некуды ўніз, бліжэй да падлогі. Чамусьці вельмі захацелася есці. У горле перасохла. Засвярбела левае вуха.

Віталь моцна ўчапіўся ў парэчню, баяўся нават павярнуцца да незнаёмкі тварам, а гэта, дарэчы, было даволі складана, бо ў салоне людзей хапала. Але што зробіш! Рана ці позна, а ўсё-ткі давядзецца азірнуцца, паглядзець вочы ў вочы гэтай таямнічай незнаёмцы.

Віталь нетаропка азірнуўся... Так і ёсць. Гэта яна! Маладая, прыгожая. Бландзінка, блакітныя вочы, светлая скура, высокія грудзі, танюткая талія... Ад яе зыходзіць вытанчаны пах найлепшых французскіх духоў... Вось яна набліжаецца да Віталя, усё бліжэй і бліжэй...

Віталь канчаткова зразумеў, што на гэты раз ён свае пяць прыпынкаў бясплатна не праедзе. Трэба тэрмінова кампасціраваць талон... Таму што яна — амаль побач... Яна — кантралёр грамадскага транспарту...

**Уладысь ЦВЯТКОЎ**

ШТО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС

**За мінулы тыдзень у Слонімскім ЗАГСе зарэгістравана чацвёра дзетак, якія нядаўна нарадзіліся:**

**Філёнчык Лена**

**Барысік Паліна**

**Рабілка Каця**

**Гурына Рыта**

***Віншуем!***

# Штрафы спаганяюць праз суд

**За дзевяць месяцаў гэтага года ў Слоніме за безбілетны праезд у гарадскім транспарце аштрафавана 149 чалавек на суму 4 млн. 531 тысячу рублёў.**

Як адзначаюць работнікі аўтапарка №3, атрымаць штраф, які цяпер складае 100 тысяч рублёў, ад «зайцоў» не так проста. Людзі не вельмі ахвотна развітваюцца з грашыма, ды не кожны цяпер мае пры сабе такую суму. Вось і даводзіцца некаторых безбілетных здаваць у міліцыю, дзе на іх складаюць пратакол. Але, каб спагнаць з іх штраф, адміністрацыі аўтапарка прыходзіцца звяртацца ў суд.

**Алег ТАЧОНЫ**

А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК...

# Манеж

У вёсцы Высацк цяжка і марудна паміраў стары Антось. Меў ён ужо 87 гадоў, і як казалі яго сваякі: «Антось аджыў сваё!».

І вось у адзін суботні вечар стары загадаў сабраць да яго ўсю радню, каб сказаць ім нешта важнае. У хату прыбеглі два Антосевы сыны, тры дачкі з зяцямі, чатыры ўнучкі і два ўнукі. Нашчадкі, ды і ўсе старажылы Высацка ведалі, што за польскім часам Антось жыў заможна. Меў 15 гектараў зямлі, малатарню, з паўсотню пчаліных вулляў. Акрамя таго, быў добрым сталяром і за сваё жыццё пабудаваў шмат дамоў і гумнаў. І тое, што ў Антося ёсць, што пакінуць дзецям, ніхто не сумняваўся.

Сабраўшыся каля хворага Антося дзеці і ўнукі меркавалі, што стары зараз пачне раздаваць спадчыну. Антось, паглядаючы на сваіх дзяцей, ціха пракрахтаў: «Ёсць у мяне нешта, аднак, скажу тады, калі будуць тут пляменнік Валодзька і ўнучак Паўлік». Усе разам загулі: «Што вы гаворыце такое, дзеду, Валодзька жыве ў Магадане,



а Паўлік ў Краснаярску. Хіба забыліся?». «Вось і давайце іх сюды!—агрызнуўся Антось.—А пакуль яны не прыедуць, нічога казаць не буду». І змоўк.

Хвалюючыся, што стары можа раптоўна памерці, не адкрыўшы сваёй таямніцы, родныя не сталі пярэчыць. А праз тыдзень па тэлеграме ў Высацк прыехалі пляменнік Валодзька і ўнучак Паўлік. І вось увесь, «Антосеў вывадак», як пажартаваў унучак Паўлік, у поўным складзе, зноў сабраўся разам. Антось доўга маўчаў, нешта ўспамінаў. Затым прамовіў: «Памятаеце хутар, дзе я калісьці жыў? Дык вось, бярыце рыдлёўкі і капайце за старой грушай. Тое, што там знойдзеце — на ўсіх хопіць!». Пасля гэтага замоўк і сканаў.

Месца са скарбам дапамог знайсці калгасны трактарыст, што калісьці звозіў каменне з былога хутарскага падмурка.

Усе, хто мог трымаць рыдлёўку, старанна дні два перакопвалі колішняе хутарышча. Нарэшце, аднаму з мужчын пашанцавала, яго рыдлёўка ляснула аб нешта цвёрдае. Пачалі капаць больш актыўна. Праз некалькі хвілін убачылі, што клад мае вялікую, круглую форму, метра два ў дыяметры і старанна загорнуты ў тканіну. Хуценька раскруцілі і ўбачылі, што гэта быў звычайны, з польскага часу, манеж, у які ўпрагалі двое, ці чацвёра коней і круцілі малатарню, альбо сячкарню.

Да вайны такі агрэгат меў не кожны селянін, і каштаваў ён вялікіх грошай. Відаць, Антось думаў, што манеж будзе ў цане пры любой уладзе і таму так старанна схаваў тэхніку.

Першым абурыўся пляменнік Валодзька з Магадана, які, кінуўшы рыдлёўку, злосна сказаў: «Сапраўды, гэтага жалеза на ўсіх хопіць!».

Калі панурыя Антосевы нашчадкі валакліся па вёсцы, людзі ў іх пыталіся: «Ну што, знайшлі клад?». «Так, знайшлі. На ўсіх хопіць!» — казалі Антосевы сваякі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## НАШ КАЛЯНДАР

**11 КАСТРЫЧНІКА** 1942 года пасля рэарганізацыі адбылося ўрачыстае адкрыццё краязнаўчага музея ў Слоніме. Пры ім былі бібліятэка, архіў і куток слонімскіх паэтаў і мастакоў.

**12 КАСТРЫЧНІКА** 1943 года выйшаў першы нумар падпольнай газеты «Вольная праца». За гады нямецкай акупацыі ў партызанскай друкарні было выдадзена 30 нумароў газеты.

**13 КАСТРЫЧНІКА** 1944 года Слонімскі народны суд разглядзеў справу па ўкрыццю зямлі ад дзяржавы жыхарамі Сялявіцкага сельсавета Іванам Жыткевічам і Ануфрыем Крушневічам. Жыткевіч атрымаў два гады турмы. Крушневіча, па прычыне слабога здароўя, пакаралі грашовым штрафам у памеры 11250 рублёў.

**16 КАСТРЫЧНІКА** 1927 года ў Слоніме адбыўся паватовы з'езд Таварыства Беларускай Школы.

У гэты ж дзень, у 1949 годзе, на сходзе сялян вёскі Чапялёва было прынята рашэнне стварыць калгас, у які аб'ядналіся 20 сялянскіх прыватных гаспадарак.

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ**

## ГЭТА ЦІКАВА

### В детстве гении вызывали сомнения

Чехов никогда не получал за школьные сочинения больше «тройки». Салтыков-Щедрин, написав сочинение за дочь, получил «двойку», да еще с припиской: «Не знаете русского языка!». А Шаляпина не приняли в консерваторию.

Уатт, Свифт, Гаусс были «пасынками» школы, считались бездарными. Ньютону не давались школьные физика и математика. Линнею прочили карьеру сапожника. Гельмгольца учителя признавали чуть ли не слабоумным, а он вопреки этим пророчествам стал гением физики, биофизики и психологии. Про Вальтера Скотта профессор университета сказал: «Он глуп и останется глупым».

«У тебя только и есть интерес, что к стрельбе из ружья, возне с собаками и ловле крыс. Ты будешь позором для своей семьи», — говорил отец Чарльзу Дарвину.

**«Достоинство»**

## БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Двенадцать заповедей

Если вы хотите жить в гармонии с самим собой, помните двенадцать «заповедей», которые, как утверждают медики, диктует нам сама природа. Итак:

—в час ночи работать бесполезно. В это время работоспособность головного мозга минимальна;

—в 5 часов утра у мужчин вырабатывается наибольшее количество гормона тестостерона. Усиливается и обмен веществ. С физиологической точки зрения, это — самое подходящее время для любовных занятий. Разумеется, если с этим согласны оба партнера;

— в 6 часов утра в кровь попадает больше всего сахара и аминокислот. Значит, все готово для восполнения ежедневной потребности организма в энергии. В этом смысле особенно везет тем, кто встает «с петухами», так как это время продуктивно для деятельности. Но не следует в такую рань курить и употреблять спиртное;

—10 утра — пик кровоснабжения. Лучше всего снабжается кровью мозг. Мы с особенной легкостью, например, решаем математические задачи. Легче всего запоминаем услышанное, увиденное, прочитанное;

—в 11 часов быстрее всего бьется сердце. Организм проявляет наибольшую выносливость. В этот час мы лучше всего сопротивляемся стрессу;

—полдень. В желудке растет количество кислот — пора обедать. Одновременно головному мозгу требуется отдых. Весьма полезно в это время немного подремать;

—в 14 часов снова высока способность к запоминанию на длительное время. В эту пору мы менее всего ощущаем боль. Подходящий случай сходить хотя бы к зубному врачу;

—в 16 часов дня во второй раз оживляются кровообращение и давление. Имеет смысл использовать это время дня для занятий спортом;

—в 18 вечера особенно учащается дыхание и очень важно дышать максимально чистым воздухом. Время для прогулок и решения важных вопросов;

—в 19 часов пульс и давление снова падают, не так активна деятельность головного мозга. Нам с трудом удается сосредотачиваться;

—после 21 часа не следует есть — желудок не успевает перерабатывать пищу к следующему дню. Быстро снижается способность головного мозга к концентрации;

—полночь. До минимума снижается выработка гормона стресса. Вследствие этого мы можем спокойно переработать полученные в течение дня стрессовые впечатления.

**Подготовил Михаил ОКУЛКО**

## СПОРТ

### Победили слонимчане

Днями в Гродно закончилось первенство области по шашкам среди юниоров.

Первое и второе места заняли слонимчане Виталий Анисько (СШ №10) и Василий Гарасюк (ПТУ №189). Тем самым они завоевали право участвовать в первенстве Беларуси. Среди девушек отличилась Мария Малинко из Раховичской школы, она заняла третье место.

**А.М.**



## ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ВІНШУЮ

**Троян Викторию** с днем рождения поздравляют родители.

**Апановича Петра Никоноровича** с днем рождения поздравляют дочери, зять и внучка Катенька.

**Кривушенко Нину Тимофеевну** с днем рождения поздравляют дети и внуки.

**Городную Ольгу Сидоровну** с 75-летием поздравляют Рипинские, Синяцкие, Гороновские.

**Савко Павла Михайловича** с днем рождения поздравляет семья Ярмоловичей.

**Шпак Зинаиду Петровну** с 60-летием поздравляют муж, дети и внуки.

**Романюк Веру Ивановну** с 70-летием поздравляют зять Олег и семья Тимофейчик.

**Долганову Викторию** с днем рождения поздравляют родители, бабушки, дедушки, семья Букато.

**Шекунову Татьяну** с 18-летием поздравляет крестная.

**Жук Елизавету Ивановну** с днем рождения поздравляют дети и внуки.

**Апановича Петра Никоноровича** с днем рождения поздравляет сваха Валентина.

**Жуковского Николая Сергеевича** с днем рождения поздравляют дочь, зять и внучка.

**Сыча Алексея** с 15-летием поздравляют бабушка, крестный, тети, братья, сестры.

**Кулешевич Валентину** с днем рождения поздравляют друзья.

**Поведайко Олега Ивановича** с днем рождения поздравляют Тарасенко Виктор, Людмила и Маша.

**Мазурину Лену** с днем рождения поздравляют родители и сестра Юля.

**Курочкину Наталью Ивановну** с днем рождения поздравляет подруга Татьяна.

### ПРАДАЮ

✓корову. Тел. 74-2-09.

✓спальню «Медуница», кухню «Ракета», тахту-диван, центрифугу. Тел. 4-11-01.

✓дом в д. Бобыничи, электросварочный аппарат. Тел. 5-24-52.

✓детские ходунки, спальный мешок для новорожденного, видеомагнитофон «JVC».
Тел. 2-94-15.

✓крупную бульбу альбо мяняю на дробную. Тэл. 2-50-30, 2-44-08, 96-7-22.

✓шубу из нутрии р.44, шубу из пса р.48-50, полушубок из пса р.44. Тел. 2-52-81.

✓а/м УАЗ-469 «Б», а/м «Фиат-125Р», пишущую электр. машинку. Тел. 2-09-21.

✓блоки (200 шт). Тел. 3-22-58 (после 18.00).

✓а/м ВАЗ-21013 1986 г.в. Тел. 2-01-04, 2-28-73.

✓а/м ВАЗ-21013 1985 г.в. Тел 5-16-63.

✓неоконченный дом. Ул. Подгорная, 12А.

✓мотоцикл МТ-10-36. Тел. 3-17-69.

✓стиральную машину «Рига», пылесос «Электросила». Тел. 2-35-65.

✓двигатель к ВАЗ-2103. Тел. 5-28-75.

✓мотоцикл «Ява-350» 1975 г.в., половину дома или меняю на а\м, запчасти к УАЗ. Тел. 3-18-64.

✓а/м «Москвич-412» 1985 г.в. Тел. 5-18-25.

✓гири спорт., аккордеон детский. Тел. 3-11-41 (с 19.00 до 21.00).

✓двигатель к «Форд-Гранада», переднюю и заднюю подвески, радиатор, карбюратор, фонари задние, культиватор к мотоблоку МТЗ-0,5. Тел. 4-19-22.

✓детский раскладной стол-стул. Тел. 2-91-21.

✓2-комн. кв-ру на «Энке». Тел. 4-13-53.

✓гараж на «Энке». Тел. 5-10-89.

✓двигатель УД, электросварочный аппарат. Тел. 3-24-51.

✓коляску для куклы, жен. кожаные сапоги р. 37,5. Тел. 2-99-13.

✓гладильную доску, телевизор ламповый на запчасти, комплект новый военный (бушлат, штаны). Тел. 2-97-36.

✓новую детскую комнату, диван. Тел. 2-18-72 (после 16.00).

✓секцию. Тел. 5-13-79.

✓кирпичный дом в д. Жировичи. Тел. 3-19-52 (после 19.00).

✓диван и два кресла. Тел. 5-16-94.

✓щенков служебной породы «Черный терьер». Тел 3-15-35, 2-56-54.

✓уголь, плиту ДСП, кафель белый. Тел. 2-17-56, 5-25-73 (после 17.00).

✓а/м ВАЗ-21063 1986 г.в. Тел. 4-13-19.

✓а/м ВАЗ-21051 1982 г.в. Тел. 2-95-51 (с 13.00 до 14.00 или вечером).

✓коз дойных, второго окота и молодых, покрытых. Тел. 3-28-43.

✓а/м "Москвич-408", в рабочем состоянии. Тел.4-14-47(после 15.00).

✓а/м ВАЗ-2103 1976 г.в.,электр. пишущую машинку, свинные кожи. Тел. 3-21-63.

✓мужские полусапожки для верховой езды р.42. Тел. 96-5-89.

✓а/м "Форд-Эскорт" 86 г.в., м/а "Мерседес-307D" 82 г.в. Тел. 4-22-25.

✓2-комн.кв-ру на Вышках или меняю. Тел. 4-26-46.

✓а/м "Opel-Record 2.3D" (дизель) 1985 г.в. Состояние отличное. Тел.4-12-44.

✓а/м «Москвич-412 ИЭ» 1983 г.в. Тел. 5-16-64 (после 17.00).

✓трильяж, прихожую. Тел. 4-16-16 (после 17.00).

✓дачный уч-ок 10 соток в р-не д. Чемеры. Ул. Брестская, 107/3, кв. 51.

✓м/а ЕРАЗ 1984 г.в. Ул Шоссейная, 4.

✓новую дубленку. Тел. 4-22-15.

### КУПЛЮ

✓двигатель к «Яве-638».

Тел. 3-18-64.

✓дом в городе. Тел. 2-32-85 (Сергей).

✓мопед «Симсон». Тел. 3-11-48.

✓щенка маленькой породы.
Тел. 4-22-15.

✓1-комн. кв-ру. Тел. 2-28-00.

✓2-дверный шкаф. Тел. 2-91-21.

### МЯНЯЮ

✓2-комн. кв-ру на 3-комн. с доплатой. Тел. 4-12-98.

✓дом в центре города на 2-комн. кв-ру. Ул. Агинского, 77.

✓3-комн. кв-ру в г. Барановичи на любое жилье в Слониме. Тел. 2-14-24 (в г. Барановичи).

✓2/3 части дома на 1-комн. кв-ру в г. Гродно или продам. Тел. 2-17-56, 5-25-73 (после 17.00).

✓2-комн. кв-ру на 3-комн. с доплатой или продам. Тел. 5-12-49.

### РОЗНАЕ

✓девушка, после окончания техникума, ищет работу бухгалтера. Тел. 4-14-17.

✓сдам на прокат или продам свадебный наряд р.44-46. Тел. 2-13-46.

✓сдам времянку под жилье или склад. Тел. 2-77-64 (после 17.00).

✓познакомлюсь с человеком, имевшим дело с процессом производства пива. 231800 а/я 5.

КУПОН ДЛЯ ПРЫВАТНЫХ БЯСПЛАТНЫХ АБ'ЯВАЎ N 19

Газета Слонімская

Рубрыка ____________

Тэкст (разборліва)____________________

Адрас (тэлефон)____________________

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім-2, а/с 5

***Шаноўныя сябры!***

***Мы вельмі рады размясціць у газеце Вашы аб'явы бясплатна. Вам толькі трэба напісаць у купоне тэкст аб'явы, а таксама ўказаць, у якой рубрыцы яна мусіць быць размешчаная:*** **купллю, прадаю, мяняю, віншую, пазнаёмлюся, паслугі, светлай памяці.** ***Пасля Вы адсылаеце купон у рэдакцыю па ўказаным адрасе.***

***Увага: ксеракопіі купона не прымаюцца, а аб'явы камерцыйнага характару не публікуюцца. Адказнасць за змест рэкламы нясе рэкламадаўца.***




Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.

Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук. Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэцкая, 109-1-12.

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.

Падпісана да друку 9 кастрычніка 1997. Час падпісання 8:00. Падпісны індэкс 64042.

Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Наклад 5.020 экз. Заказ № 2.380